# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 26 (278) | ГОД VI | БЕЛАСТОК 25 ЧЭРВЕНЯ 1961 ГОДА | ЦАНА 60 ГР.


У ДЗЕНЬ САВЕЦКАЙ МОЛАДЗІ

## ПРАЦА • НАВУКА • СЯБРОЎСТВА

25 чэрвеня савецкая моладзь святкуе сваё свята — Дзень савецкай моладзі. У гэты дзень юнакі і дзяўчыны Краіны Саветаў дэманструюць свае дасягненні. А іх не мала. На новабудовы Сібіры,

(Працяг на стар. 3)

Мільёны ляцяць з дымам

## РАЗВЯЗАЦЬ РУКІ

Міліцыйныя паведамленні сцвярджаюць аднагучна: няма такога дня ў час гарачага летняга перыяду, каб дзесьці на Беласточчыне не збіраў сваё крывавае жніво «чырвоны певень».

Вартасць дабра, якое штогод паглынае агонь у Беластоцкім ваяводстве, сягае дзесяткаў мільёнаў злотых. Напрыклад, у мінулым годзе толькі адна дзяржаўная ўстанова — Ваяводскі аддзел ПЗУ у Беластоку — па поваду затрат ад агня выплаціла жыхарам Беласточчыны (пераважна сялянам) 32 мільёны злотых кампенсацыі (адшкадавання). Неабходна тут дабавіць, што прыведзены лік яшчэ не адлюстроўвае поўнага жніва, якое штогод прыходзіцца збіраць «чырвонаму пеўню». Гэта толькі тая частка затрат, якую «афіцыйна» сцвердзілі інспектары ПЗУ.

Пералічыць усё на грошы, на жаль немагчыма, бо чалавечае няшчасце не вымяраецца грашыма. Але калі б нават абмежавацца да матэрыяльных затрат, без ніякай памылкі, найбольш скептычна можна было б ацаніць іх ніжні рубеж на вартасць у 50 мільёнаў злотых.

**ЗА АДЗІН ГОД У АДНЫМ ВАЯВОДСТВЕ СТОЛЬКІ ДАБРА ПАЙШЛО З ДЫМАМ!**

**50 000 000! За гэтыя ж грошы можна пабудаваць пяцьсот будынкаў вартасцю ў 100 тыс. зл. кожны! А гэта — не менш - не больш, як дзве грамадныя, мураваныя вёскі, або 500 раміз, або звыш паўтары тысячы магутных супрацьпажарных мотанасосаў, выпайнасцю ў 800 літраў вады ў мінуту.**

(Працяг на стар. 5)



СВЯТА МОЛАДЗІ У МІНСКУ.

ГАВОРАЦЬ СТАГОДДЗІ

## БЕРАЖЭМ ПОМНІКІ МІНУЎШЧЫНЫ

Каля Гацькоў, ля самай шашы, што вядзе з Беластока ў Бельск, стаіць гара вышынёй метраў 8. Жыхары вёскі па прывычцы як да кожнага прадмета або аб'екта на тэрыторыі свайго месца жыхарства не звяртаюць на гару большай увагі. І мала каму з мясцовых людзей хіба прыдзе на думку, што там на раўнінным месцы яна не магла «вырасці» сама па сабе, а толькі можа з'яўляцца штучным творам. Зверне на гэта ўвагу падарожны па прычыне, што гара мае геаметрычную форму

(Працяг на стар. 3)

**Няммога засталося памятак простай, адначасова і складанай прамысловасці. Іх знішчае час, розныя катаклізмы.**

**Забытковы водны млын у Жэрчыцах, Сямятыцкага павета.**

фота **Ул. Пашкоўскі**





Курганы з III — V стагоддзяў ля вёскі Курашава (Гайнаўскі павет). фота Ясканіс

## З'езд настаўнікаў у Гайнаўцы

4.VI. адбыўся ў Гайнаўцы З'езд настаўнікаў усяго павета. У рэфераце, а таксама і ў спрэчках абмяркоўвалася між іншым справу працы настаўніка ў беларускім асяроддзі, супрацоўніцтва з існуючымі на вёсцы арганізацыямі, а асабліва з гурткамі БГКТ. З'езд прыняў шэраг цікавых пастаноў, напрыклад, пастанову пабудаваць у Гайнаўцы Дом настаўніка, які ўпрыгожаны будзе вырабамі народнага беларускага мастацтва.

(п)

 

# ПАХМЕЛЛЕ

Пасля ўчарашняй папіёхі, у рэферэнта канторы Цяпкіна, трашчала галава. Але па кішэнях гуляў у яго вецер і пахмяліцца не было за што.

Выконваючая ролю жонкі, грамадзянка Марта вытрасла ў п'янага Цяпкіна ўсё да граша, так што стары даследваны сродак — «Клін-клінам», Цяпкін не мог ажыццявіць.

Да ўсяго гэтага, як на злосць, дзівосныя думкі рассаджвалі рэферэнтскую галаву.

Вось, напрыклад, разнік. Жыве ён, так сказаць, з нажа і заўсёды здолее выкраіць сабе кусок сала. Аднаму парсюка зарэжа, іншаму каўбас наробіць. У яго заўсёды вядзецца ў кішэні грош на пахмелле.

Краўца зноў ножніцы кормяць. Дзень за днём чырыкаюць гэтыя ножніцы, эканомячы матэрыял, а ў суботу напіваецца кравец, як шавец. Нейкі там сакратар з пячаткі жыве. А з рэферэнцкага стала нічога не выціснеш. Даходу ніякага, а непрыемнасці — хоць лапатай адкідай!

— Прамачыць бы горла ў гігіенічных мэтах, ды Марта...

Пры ўспаміне аб жонцы вочы Цяпкіна імглой зацягнуліся.

Перамагаючы ўсё нарастаючую злосць і надаючы голасу мяккія прасільныя ноткі, Цяпкін сказаў:

— Мартанька, пазыч дзве дзесяткі па службовай патрэбнасці.

— Якія ж гэта дзяржаўныя справы збіраешся варочаць за 20 злотых? — пачуўся голас з кухні.

— Марку казённую згубіў са службовай паперкі. Новую купіць трэба, — адказаў Цяпкін.

— Не хвалюйся, я табе прынясу марку.

— Эх, Мартанька, не купіць табе такой маркі. Яна ж павінна быць такога колеру, як згубленая.

— Табе, мабыць, патрэбна марка белага колеру з манапольным пахам. Мала ўчора налізаўся?! — пачала жонка.

Цяпкін аблізаў перасохшыя губы.

— За працу вазьміся, — трашчала Марта. — У хляве вось гною сабралася, што не ўлезці.

— Як з хлявом спраўлюся — паставіш шкляначку?

— Пастаўлю дзве шклянкі з гурэчным расолам. Ад перапою гэта найлепшае лякарства.

— Чорт з табою і з тваім хлявом. Сам найду сабе чвэртку, — узлаваўся Цяпкін.

— Пачакай, даражэнькі. Спяшаць табе няма куды. На вось прачытай гэтую паперку, — сказала Марта, загарадзіўшы Цяпкіну выхад.

— За п'янства звольнілі з працы, — дадала яна. — і чапорыцца няма чаго.

Цяпкін аж прысеў ад нечаканасці і зусім працверазіўся.

Бяда, мілыя грамадзяне ў тым, што людзі ў час п'янства не задумваюцца над сваім пахмеллем. А чым больш піць, тым больш збіраецца бяды над апахмеленай галавой.






САМАДБСЛУГОЎВАННЕ

### НЕ ГОНІЦЬ

— Гоніш, браток, самагонку? — пытае міліцыянер селяніна.

— Не! — адказаў той.

— Такі ў цябе апарат як гэты? — пытае ён селяніна завёўшы на пастарунак.

— Не! — адказаў той. У маім бочка меншая і вужок танчэйшы.

**Сцёпа Сідарук**
Крывая

### ДЗЯДОК

Ідучы дарогай, дзядок наткнуўся на роў. Каб яго абмінуць, трэба было вяртацца далёка назад.

— Ну, было не было, — падумаў дзядок. — Пераскочу.

Ён скочыў і.. трапіў у сярэдзіну рова.

— Ой, Божачка, старасць не радасць, — уздыхнуў дзядок, вылазячы з рова.

Але бачачы, што каля яго няма жывой душы дзядок дадаў паціху:

— Я і ў маладосці не пераскочыў бы яго.

**Ніна Аляксеюк**
Палічна



— Якая ж ты з гэтым званком не сучасная.

### ДРЭННЫ ЗЯЦЬ

— Ой, не маю, суседка, пацехі са свайго зяця. За два месяцы з'еў цэлы пасаг.

— А шмат далі вы, суседка, за дачку?

— Дзве свінкі і дванаццаць курэй.

**Мікалай Місюк**
Яцэвічы



Супярэчныя пачуцці

## ГАСПАДЫНЬКА

Марыля так спяшала да суседкі,
Што не закрыла ў каморы дзверы.
А ў гэты час каты — халеры
Наладзілі каўбасам, малаку адведкі

Пакуль Марыля у «суседкі мілай»
Язык вастрыла і мянціла,
Каты ў каморы каля міскі,
Пад'еўшы, мылі свае пыскі.

Марыля наляцела, як віхура.
Кляне суседак, шкоднiц-мурак.
— Нягоднiцы, катоў нагадавалі,
Бадай яны павыдыхалі...

Не так каты, па-мойму, вінаваты,
Як гаспадыня хаты,
У каторай
Адкрыта для катоў камора.

Такіх і у жыцці не мала з'яў.
Даволі ёсць яшчэ разяў.

**М. СКРЫПКА.**

Паведамляючы аб тым, што заходнегерманскія танкавыя часці пераправяцца праз Ла-Манш, ваенны аглядальнік газеты «Дэйлі тэлеграф» тут жа паспяшыў запэўніць, што «гэта ніўякім разе не азначае, што Заходняя Германія стварае базы ў Англіі». Аказваецца, Вялікабрытанія такім чынам здолее... лепш кантраляваць працэс абучэння і размяшчэння заходнегерманскіх войск.

(з газет).



МОЙ ДОМ — ЧУЖАЯ КРЭПАСЦЬ.

### ЭКЗАМЕН НА НОСЕ

— Чаго ты ўсё глядзіш на мяне? — пытае старэйшы брат малодшага.

— Мама казала, што ў цябе экзамен на носе, я і гляджу на яго, — адказаў той.

**Аркадзь Лапэўскі**
Лесна

### ЧАМУ МЕСЯЦ БЛЕДНЫ

— Чаму ты такі бледны? — спытала сонейка ў месяца.

— Каб ты тое бачыла, што я ноччу, — адказаў месяц, — то і ты пабляднела б.

**Фёдар Міхалюк**
Койлы

**РЫГОР СТРУП**

## КАРОТКІЯ БАЙКІ

★ ★

**Асёл аднойчы нос задраў,**
**Чаго з ім не было ні разу.**
**Ён бачыце падслухаў фразу,**
**Як хтосьці Льва аслом назваў.**

★ ★

**Бульдог лёг ценем на сцяну**
**(Цень роўны волату — Слану).**
**Бязхвостны брэша... Рады ён:**
**— Хіба вялікі толькі слон?**



Без слоў

 